Год II    Субота, 14 студня 1922 г.    № 9 (18)

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ: Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki" пак. № 2. Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

Цана нумару 20 марак.
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў таксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

## Усіх чытачоу Вітаем з Новым Годам!



*Вільня, 14 Студня 1922 г.*

Скончыўшыяся выбары ў Віленскі Сойм з'явіліся павучыцельным малюнкам, з якого лёгка бачыць настрой насяленьня і адносіны яго, як да будучага Сойму, так і да тых партыяў, якія змагаліся паміж сабою ў час выбарнай кампаніі.

Перш усё трэба адзначыць, што агітацыя проці выбараў з боку літоўцаў, віленскіх жыдоў і беларускай групы Віл. Нацыян. Камітэту, ня мела ніякага ўплыву на насяленьне.

І жыды, і літоўцы і, тым балей, беларусы, пайшлі да выбарных урнаў.

Аб гэтым сьведчыць высокі процэнт, галасаваўшых дахадзіўшы, як напрыклад, у Браслаўкім павеце, гдзе шмат літоўцаў і жыдоў, да 80 проц. у Віленскім да 77 проц. у Ашмянскім да 75 проц., у Трокскім і Сьвенцянскім паветах вышэй 50 проц.

Што датычыцца партыяў, дык найбольшы лік мандатаў, як ведама, ў Вільні атрымалі эндэкі, разьвіўшыя наймацнейшую агітацыю і, разумеецца, распалагаўшыя значнымі сродкамі і кадрам пэўных агітатараў і інструктароў.

На паветах эндэцыя ні якога ўплыву ня мела. Але там прадвыбарная кампанія выявіла вельмі прыкры факт, аб яком сьведчаць нашы карэспандэнты з Ашмянскага павету, гдзе як ведама, беларусы выставілі сваіх кандыдатаў ў Сойм (сьпіскі № 5 ў Ашмяне і № 6 ў Камаях).

Здавалася бы, што адносіны да гэтых сьпіскаў з боку польскіх партыяў павінны былі быць ня толькі карэктнымі, але прыхільнымі і дружасьцьвенымі, бо сьпіскі выстаўляліся ад тых беларускіх арганізацыі і партыяў, якія моцна трымаюцца польскай арыэнтацыі і жадаюць найхутчэйшага далучэньня Сярдковай Літвы да Польшчы.

Гэтыя беларускія арганізацыі і партыі ўвесь час змагаліся з беларускімі групамі, стаючымі на грунце нямецка-літоўскай і бальшавіцкай арыэнтацый.

Агенты Ластоўскага, беларускіе эсэры і групы, базіруючыя на пастановах Пражскай нарады, рабілі ўсе мажэбныя крокі, разьвілі моцную агітацыю, ня стыдзіліся, навет, пусьціць у ход інсынуацыі і плёткі, каб дыскрэдаваць сваіх праціўнікаў у вачох беларускага насяленьня і ўнушыць яму анті-польскі настрой. Аб гэтым сьведчаць ня толькі пастановы, так званага „Беларускага Ураду Ластоўскага", але і пастанова „Віленск. Белар. Нацыян. Камітэту", адкрыўшага кампанію проці выбароў ў Віленскі Сойм. Аб гэтым сьведчаць і тыя стацьі, якія друкаваліся ўвесь час у „Белар. Ведамасьцях", „Беларускім Звоне" і „Крыніцы". Напрыклад у „Белар. Вед." у N 1 за гэты рок у палітычным аглядзе „За Год" пішуць:

„Пасьля Рыскай умовы, падзяліўшай Беларусь паміж Польшчай і Савецкай Расеяй, беларусы Віленшчыны, Горадзеншчыны і часткі Меншчыны апыніліся ў найгоршым палажэньні, горшым навет ніж пад Савецкай Расеяй, дзе ёсьць хоць слабая магчымасьць разьвіваць нацыянальную справу ў Савецкай Беларусі."

З гэтых радкоў ясна відаць тое пачуцьце, якое носяць у сваім сэрцу да Польшчы беларусы антыпольскай арыэнтацыі, для якіх Савецкая Беларусь з'яўляецца хоць і на ідэалам, але ўсе пажаданай і вельмі прыемнай.

Не гледзячы на гэтую сытуацыю Беларускай справы, амаль ня ўсе польскія інструктары і агітатары, ў Ашмянскім і Камайскім выбарных вакругох, вялі варожую агітацыю проці выбарных беларускіх сьпіскаў і трэба прызнацца, гэта агітацыя мела ўплыў.

Дзеля чаго гэта рабілася?

У лепшым выпадку — гэта проста незразумеласьць і неасьведамленасьць польскіх інструктароў і агітатараў, не спасобных арыэнтавацца ў запутаным лабірынце беларускай справы.

Добра толькі тое, што наш беларускі народ усё-ж разабраўся ў палітыцы мамэнту і ня пайшоў за ворагамі Польшчы, нападаўшымі яму дэрэктывы габінэту Ластоўскага і К-о.

Будзем спадзявацца, што абмылкі, зробленыя ў часе выбараў у Сойм па незразумеласьці і неасьведамленасьці агітатарамі і інструктарамі польскіх партыяў, у будучыне не паўтарацца і іх адносіны да беларускага нацыянальнага руху і да тых партый і арганізацый, якія ідуць па шляху лучнасьці з Польшчай, зьменяцца ў бок прыязні і прыхільнасьці.

✦✦✦✦

## З Новым Годам!

З новым годам! браты сяляне!
З новым годам сябры!

Хай гэты год Вам шчасьця прынясе, хай гэты год будзе нашым вызваленьнем, хай гэты год Бацькаўшчыну збудзіць!...

У гэтым годзе скажам пагарда, сьмела:
Дос няволі, дос зьдзеку, гвалту над намі!

Сьцяг свой бел-чырвона-белы пагардаю рукой ў вышыню падымем пад сама неба!..

Усім народам скажам:

Хочам жыць вольна, бяз ніякай навалы. Хочам аб'еднаць усіх!

Каб ня было ў нас балей ні ворагаў, ні нядолі, ні панурага жыцьця!

Дык гэй браты!

Ужо дыша лес вясною і нас да сябе заве. Пад гоман хваль вазёр і рэчак узбуджаных вясною. Хай голас наш учуюць усе народы.

Досьць зьдзеку і нядолі!

*Дзяргач.*

✦✦✦✦

## ТЭЛЕГРАМЫ.

ПАРЫЖ. 13. І. (А. В.). Брыан прэдлажыў Радзе міністраў праэктумовы аб французска-ангельскіх гарантыях Лейд-Джоржам.

ЖЭНЕВА. 13. І. (А. В.). На сягоньняшнім паседжаньні Рады Лігі Народаў разглядаўся пратэст Ковенскага ураду проці выбараў ў Віленскі Сойм.

ПАРЫЖ. 13. І. (А. В.). Найвышэйшая Рада разглядала праграму Генуэнскай Канфэрэнцыі. Пасьля разгляданьня фінансавай часьці і парадку дня, маючаю ў сабе справы валютаў, цэнтральных і эміссійных банкаў, справу ўстаўводаўчую аб вышэпамечаных рэчах, а роўна-ж і аб чэках, найвышэйшая Рада пастанавіла, што канфэрэнцыя можа наогул адбыцца толькі ў тым выпадку, калі запрошаные на канфэрэнцыю гаспадарства згодзяцца прыняць рэзалюцыю аб выключэньні з парадку дня спраў палітычных.

РЫГА. 13. І. (А. В.). Латышскі старшыня міністраў п. Мэеровіч, ў размове з карэспандэнтамі, вызказаў надзею, што Рада Лігі Народаў ня будзе дамагацца гарантыі народных меншасьцей ў Латвіі на тых-жэ засадах, як ад Польшчы ў вэрсальскім трактаце, бо цяпер, пры напдыве ў Латвію непажаданага элементу з ўсхода, яна мусіць быць, ў гэтай справе, вельмі асьцярожнай.

РЫГА. 13. І. (А. В.). У зьвязку з праэктараным ангельска-італьянскім гандлёвым трактатам, у Рыгу прыехаў латышскі пасол ў Лёндыне п. Біссенек.

ВАШЫНГТОН. 13. І. (А. В.). П. Гугес назначэн старшынёй амэрыканскай дэлегацыі на гаспадарчэй канфэрэнцыі.

БРУСЭЛЬ. 13. І. (А. В.). Спадзяюцца што Бэльгія возьме удзел ў ангельска-францускім саюзе.

РЫГА. 13. І. (А. В.). У Рызе закончыліся пасяджэньня з'езду латышскіх сацыялістаў. З'езд выказаўся за распачатак добрых адносін балтыцкіх гаспадарстваў з Маскоўшчынай, і проці вайсковай канвэнцыі з Польшчай.

БЭРЛІН 13. І. (А. В.) Жыцьцё ў Нямеччыне ў сьнежню падаражэла на 15 пр. проці лістапада.

БЭРЛІН 13. І. (А. В.) „Voss. Zeit." даносіць, што канфэрэнцыя ў Канне закончыцца ў будучым тыдню.

ПАРЫЖ 13. І. (А. В.) Брыян падаўся ў адстаўку. Стварэньне новага габінэту мае быць даручано Піокарэ'му.

БЭРЛІН. 13. І. (А. В.) Тутака паведамляюць, што проці цяперашняй палітыкі францускага ураду расьце, што раз, мацнейшая апазыцыя францускага парлямэнту. На чале апазыцыі стаіць пасьледавацель Клеманса — пасол Клёц.

✦✦✦✦

## Асьвета у Савецкай Беларусі.

(Ліст у рэдакцыю.)

Хто ня ведае, якое „добрае" жыцьце ў бальшавіцкім „раі?"

Хто ня чуў пра зьдзекі камуністаў над сьв. верай? Хто ня чуў пра расстрэлы заўсім нявінных людзей, пра страшэнные турмы чразвычаек, гдзе людзей мучаць цэлымі гадамі, трымаючы іх у голадзе і холадзе?

Хто ня ведае таго, што жыцьце там гдзе пануюць камісары і камуністы, куды хужэй, чым катарга Акатуя і Нерчынска?

Цэлая дзяржава бьецца ў прадсьмертных сударгах, мільёны уміраючых з голаду клянуць камунізм і яго павадыраў — Леніна і Троцкага. Няма ў Саўдэпіі вугла, гдзе бы не раздаваўся гвалт, ня чуліся бы стоны і зьдзекі, рогат камісараў, здымаючых апошнюю кашулю з працоўнага чалавека.

Ня лепш жывецца і ў той часткі Беларусі, якая знаходзіцца пад бальшавіцкім цяжкім бытам.,. І там людзі стогнуць у няволі; і там людзей, нашых беларусоў, сотнямі расстрэліваюць, мучаць у турмах, адбіраюць апошняе дабро, нішчаць гаспадарку...

А што робяць з дзяцьмі? Божачка мой! Яны убіваюць душу дзіцяці, яны насілуюць прыроду чалавечую.

І вось цікавая рэч. Не гледзячы на ўсе ўжасы жыцьця у „Савецкай Беларусі," не зьвертаючы увагі на страшэннае зло, якое прынясло на нашу Бацькаўшчыну

